# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 23 (97) | 20 лістапада 1930 г. | № 23 (97)


## ЗЬМЕСТ



## Абежнік Народнага Камісарыяту фінансаў БССР.

### Паст. 185. Пра тэрміны перадачы ў Дзяржбанк і ашчадкасы даходаў, якія зьбіраюцца праз касы РВК, гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы.

*Усім РВК, Менскаму, Гомельскаму і Віцебскаму Гарсаветам.*

*Копія—Усім установам Дзяржбанку і с.-г. крэдытным таварыствам.*

Каб паскорыць паступленьне ў касы Дзяржбанку грашовых сум, якія зьбіраюцца праз райкасы, гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы, устанаўляюцца наступныя тэрміны перадачы іх у адпаведныя касавыя ўстановы:

1. Раённыя выканаўчыя камітэты, якія яшчэ не ліквідавалі сваіх кас, а таксама гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы, якія знаходзяцца ў мясцовасьцях, дзе ёсьць установы Дзяржбанку альбо сельскагаспадарчыя крэдытныя ўстановы ці ашчадкасы, паступаючыя да

іх сумы падаткаў, даходаў і збораў абавязаны здаваць ва ўстановы Дзяржбанку, а пры адсутнасьці апошніх—у ашчадкасы або сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы не пазьней, як на другі дзень пасьля прыёму грошай.

2. Местачковыя і сельскія саветы, у месцы знаходжаньня якіх няма ні ўстаноў Дзяржбанку ні ашчадкас альбо с.-г. крэдытных таварыстваў, паступаючыя да іх сумы даходаў і плацяжоў абавязаны здаваць альбо перасылаць у адну з пералічаных устаноў не радзей як адзін раз у тры дні.

3. Сумы самаабкладаньня павінны ўносіцца ў паказаныя вышэй тэрміны ва ўстановы Дзяржбанку, а пры адсутнасьці апошніх—тольκі ў ашчадкасы (пошта-тэлеграма НКФ БССР за 11 кастрычніка 1930 г. Інд. ФКС-3).

4. Расходы па перасылцы і дастаўцы сум дзярждаходаў у пералічаныя ўстановы аплачваюцца сельскімі і местачковымі саветамі, паказанымі ў п. 2, з высылаемых сум, з тым, што дзяржаўнаму бюджэту гэтыя расходы пакрываюцца Дзяржбанкам.

Расходы па перасылцы і дастаўцы даходаў мясцовых бюджэтаў і страхавых плацяжоў робяцца за кошт перасылаемых сум.

Раённыя выканаўчыя камітэты і гарсаветы абавязаны тэрмінова перадаць гэта распараджэньне саветам сваіх раёнаў і ўстанавіць сыстэматычны нагляд за выкананьнем яго; пры выяўленьні выпадкаў парушэньняў устаноўленых тут тэрмінаў здачы сум, вінаватых у гэтым неадкладна прыцягваць да адказнасьці.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

20 кастрычніка 1930 г.
Інд. ФКС-2.

### Паст. 186. Пра выняткі па адзінай дзяржаўнай пошліне.

На падставе арт. 8 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 480) НКФ БССР пастанаўляе:

1. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за натарыяльныя дзеяньні (п. п. 1 і 2 пераліку ставак пошліны):

а) натарыяльныя дзеяньні, што робяцца паводле заяў асоб, вызваленых судом ад пошліны па судовай справе, калі яны просяць пасьведчыць дакумэнты і копіі для перадачы ў суд па справе, па якой суд вызваліў іх ад пошліны;

б) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах, якія датычаць прызыву грамадзян на вайсковую службу і праходжаньня яе;

в) натарыяльныя дзеяньні па дакумэнтах, якія датычаць атрыманьня і спагнаньня заработнай платы і прыроўненых да яе плацяжоў, сродкаў на ўтрыманьне, пэнсій і дапамог ад органаў сацыяльнага забясьпечаньня і сацыяльнага страхаваньня;

г) пасьведчаньне даручэньняў вайскоўцаў кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновай службы на вядзеньне спраў у судовых і адміністрацыйных установах, а таксама даручэньняў гэтых самых асоб на атрыманьне заработнай платы і на атрыманьне паштовай грашовай і пасылачнай карэспандэнцыі (арт. 84-а Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г., № 23, арт. 253);

д) пасьведчаньне копій і дакумэнтаў, якія падаюцца вайскоўцамі кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновай службы ў дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі (арт. 84-б Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г., № 23, арт. 253);

е) пасьведчаньне сельскімі саветамі копій дакумэнтаў для падачы ў навучальныя ўстановы (пры паступленьні) і ў органы сацыяльнай забясьпекі;

ж) пасьведчаньне сельскімі саветамі подпісаў на паштовых павестках на атрыманьне ўсякага роду лістоў, апроч каштоўных пакетаў.

2. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны іскавыя заявы (п. 5 пераліку ставак пошліны):

а) па спагнаньні ўсякага роду заработнай платы і сродкаў на ўтрыманьне;

б) працоўных, прызнаных пастановай народнага судзьдзі альбо суда, які разьбірае справу, ня маючымі сродкаў, каб заплаціць пошліну;

в) вынаходцаў і іх насьледнікаў па спагнаньні за скарыстаньне зарэгістраваных вынаходак і прамысловых узораў, калі сума кожнага іску ня больш 3.000 р.;

г) вайскоўцаў кадравага радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновай службы (арт. 83 Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253).

3. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты і накладаньне віз ( п. п. 6-13 пераліку ставак пошліны):

а) савецкіх грамадзян, якія зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня за межы пасьля сканчэньня службы ў РСЧА альбо на час свайго водпуску;

б) асоб, якія прыбылі з-за мяжы па прызыву на вайсковую службу і зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня ў выпадку адтэрмінаваньня альбо вызваленьня ад вайсковай службы;

в) палітычных эмігрантаў, на падставе даведак ЦК МОПР'у і яго мясцовых органаў.

4. Вызваліць ад аплаты адзінай дзяржаўнай пошлінай наступныя пісьмовыя заявы ва ўрадавыя ўстановы і службовым асобам (п. п. 14 і 17 пераліку ставак пошлін):

а) заявы ад асоб якія атрымліваюць дапамогу ў парадку сацыяльнага зябясьпечаньня і сацыяльнага страхаваньня, альбо прызнаны маючымі права на гэтую дапамогу;

б) заявы ад вучняў навучальных устаноў, якія атрымліваюць дзяржаўныя стыпэндыі;

в) заявы, якія падаюцца ў дзяржаўных і грамадзкіх інтарэсах;

г) заявы аб злоўжываньнях і незаконных дзеяньнях службовых асоб і ўсе заявы, якія падаюцца ў бюро скаргаў РСІ;

д) заявы, якія падаюцца ў сельскія саветы, за выключэньнем: 1) тых, што датычыць гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, 2) заяў, зьвязаных з рэгістраацыяй актаў грамадзянскага стану аб шлюбе, разводзе і аб перамене імя і прозьвішча і 3) заяў ад асоб, якія абкладаюцца с.-г. падаткам у індывідуальным парадку і падаходным падаткам па 3-ім расьпісаньні ставак гэтага падатку;

е) заявы па справах рэалізацыі, звароту і пагашэньня дзяржаўных пазык;

ж) заявы ў дзяржаўныя працоўныя ашчадныя касы;

з) заявы (аб'явы) у крэдытныя ўстановы аб уносе падаткаў, збораў, штрафаў і г. д.;

і) заявы аб звароце няправільна ўнесеных падаткаў і збораў і аб заліку іх у іншыя плацяжы;

к) заявы і скаргі па адзіным с.-г. падатку, за выключэньнем тых, што падаюцца асобамі, якія абкладзены ў індывідуальным парадку;

л) заявы па абавязковым акладным страхаваньні, па дзяржаўным дадатковым акладным страхаваньні будынкаў ад агня ў сельскіх мясцовасьцях, па спрошчаным страхаваньні ад агня хатняга абсталя-

ваньня і с.-г. прадуктаў, якія належаць працоўнаму земляробчаму насельніцтву і па ўсіх відах страхаваньня с.-г. расьлінных культур ад градабіцьця і с.-г. жывёлы ад пошасьці;

м) заявы і скаргі вайскоўцаў кадравага радавога і начальніцкага складу (апроч асоб, якія зволены ў доўгатэрміновы водпуск) і іх сем'яў па ўсіх справах (арт. 79 Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253);

н) заявы рабочых і служачых у камунальныя органы альбо да адміністрацыі дамоў, якія належаць дзяржаўным установам, аб дачы ім кватэр, аб рамонце, апале, асьвятленьні іх кватэр і аб іншых камунальных паслугах.

5. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за прапіску дакумэнтаў аб пасьведчаньні асобы (п. 19 пераліку ставак пошліны), вайскоўцаў кадравага і начальніцкага складу (апроч асоб, якія зволены ў доўгатэрміновы водпуск) і іх сем'і (арт. 89 Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253).

6. Вызваліць ад адзінай дзяржаўнай пошліны, устаноўленай за дазвол на права паляваньня (п. 22 пераліку ставак пошліны), вайскоўцаў кадравага складу і пераменнага складу тэрытарыяльных часьцей (арт. 82 Кодэксу льгот вайскоўцам—З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253)

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Нач. Кіраўніцтва Даходамі НКФ БССР **Айзінсон.**

17 кастрычніка 1930 г. № 21.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 187. Пра ўніфікацыю аплаты сялянскай цягавай гужсілы.

Для разьвіцьця пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 8/VII—1930 г. „Пра ўніфікацыю аплаты сялянскай цягавай гужсілы па БССР"—НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Увесьці на тэрыторыі БССР з 27-га кастрычніка 1930 г. аплату за скарыстаньне сялянскай цягавай гужсілы па вывазцы дроваў, лесаматарыялаў, каменьня, пяску, торпу, паводле наступнай табліцы:

**РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ КРУГЛАГА ЛЕСАМАТАРЫЯЛУ.**

| Адлегласьць у клм. | СТАЎКА ЗА КУБ. МЭТР. ДРАЎНІНЫ | | | | | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хвойныя пароды. | Вольха, бяроза ліпа +10% | Падтаварнік +20% | Дубовыя кражы да 1 м. +35% | Дубовыя кражы 1 1/2 м. +50% | Дубовыя кражы 2 м. +75% | Дубовыя кражы 3 м. +100% | |
| 3 | 1—00 | 1—10 | 1—20 | 1—35 | 1—50 | 1—75 | 2—00 | Вывазка 7 хваёв. шпал прыраўніваецца да аплаты 1 кб. м. хв. парод; 7 дубов. шпал прыраўніваецца да аплаты 1 кб. м. дуба, г. зн. 1-35 к. м. Вывазку чурбаноў хв., дубов. прыраўн. да адпаведных парод. |
| 4 | 1—25 | 1—36 | 1 40 | 1—67 | 1—86 | 2—17 | 2 48 | |
| 6 | 1—65 | 1—80 | 1—97 | 2—21 | 2 - 46 | 2—87 | 3—28 | |
| 8 | 2—20 | 2—42 | 2—64 | 2—97 | 3—30 | 3—85 | 4—40 | |
| 10—11 | 2—84 | 3—12 | 3—41 | 3 - 83 | 4—26 | 4—97 | 5—68 | |
| 12—13 | 3 32 | 3—65 | 3—98 | 4—48 | 4—98 | 5—81 | 6—64 | |
| 14—15 | 4—00 | 4—40 | 4—80 | 5—40 | 6—00 | 7 00 | 8—00 | |
| 16 | 4—50 | 4—95 | 5—40 | 6—07 | 6—75 | 7—88 | 9—00 | |

Звыш 16 клм. возкі круглага лесаматарыялу дабаўляецца па 15 кап. на кожны клм.—куб. м.

## РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ ДРОЎ

| Адлегласьць у кілёмэтр. | ЦАНА ЗА ПАЎМЭТР У КАП. | | | | | | УВАГА. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мякк. пароды сухія. | Мякк. пароды сырыя +10% | Цьвёрдыя пароды сухія+10% | Цьвёрдыя пароды сырыя+20% | Швырок +20% | Бачкарка, стойка, баланс. | |
| 2 | 60 | 66 | 66 | 72 | 72 | 72 | Ад 16 клм. і больш дадаецца па 10 кап. на кожны кілёмэтр—паўмэтр. |
| 4 | 75 | 83 | 83 | 90 | 90 | 90 | |
| 6 | 1—15 | 1—26 | 1—26 | 1—38 | 1—38 | 1—38 | |
| 8 | 1—35 | 1—48 | 1—48 | 1—62 | 1—62 | 1—62 | |
| 10—11 | 1—60 | 1—76 | 1—76 | 1—92 | 1—92 | 1—92 | |
| 12—13 | 1—80 | 1—98 | 1—98 | 2—16 | 2—16 | 2—16 | |
| 14—15 | 2—00 | 2—20 | 2—20 | 2—40 | 2—40 | 2—40 | |

## РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ ШЧАПНЫХ МАТАРЫЯЛАЎ.

| Адлегл. у клм. | Мэмельск. клёпка за капу. | Біндэрная клёпка за тону. | Сьпіца за 1000 шт. | Гонт за капу. | Асінавая клёпка за 1000 шт. | Дубовая клёпка за 1000 шт. | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4—00 | 2—00 | 3—35 | 5 к. | 3—35 | 4—00 | Ад 16 клм. і больш дадаецца па 15 кап. на кожны кілёмэтр, капу, тону, тысячу, а на гонт па 1 кап. на капу за кожны клм. Пры аплаце за перавозку асін. або дуб. клёпкі выходзіць з разрахунку клёпкі 16 вяршкоў. |
| 4 | 5—00 | 3—00 | 4—50 | 7 „ | 4—50 | 5—40 | |
| 6 | 7—00 | 3—75 | 6—00 | 10 „ | 6—00 | 7—20 | |
| 8 | 8—00 | 4—00 | 7—00 | 12 „ | 7—00 | 8—40 | |
| 10—12 | 10—00 | 6—00 | 9—00 | 14 „ | 9—00 | 10—80 | |
| 13—14 | 12—00 | 8—00 | 11—00 | 20 „ | 11—00 | 13—20 | |
| 15—16 | 14—00 | 9—00 | 13—00 | 25 „ | 13—00 | 15—60 | |

## РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ КАМЕНЬНЯ

| Адлегласьць у кілёмэтрах | Цана за 100 клгр. у кап. | Цана за куб. м. у рублях | УВАГА. |
|---|---|---|---|
| 2 | 20,2 | 4—29 | Ад 16 клм. і вышэй дадаецца па 15 кап. на кожны кілёмэтр—куб. м. |
| 4 | 25,0 | 5—33 | |
| 6 | 33,0 | 7—15 | |
| 8 | 44,5 | 9—49 | |
| 10—11 | 58,6 | 12—48 | |
| 12—13 | 64,7 | 13—78 | |
| 14—15 | 70,8 | 15—08 | |
| 16 | 76,9 | 16—38 | |

## РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ ПЯСКУ.

| Адлегласьць у мэтрах. | Цана на 100 клгр. у кап. | Цана за куб. м. у кап. | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 100 | 3,1 | 50 | |
| 200 | 3,7 | 60 | |
| 300 | 4,1 | 67 | |
| 400 | 4,7 | 77 | |
| 500 | 5,3 | 87 | |
| 600 | 5,8 | 95 | |
| 700 | 6,4 | 1—05 | |
| 800 | 7,2 | 1—18 | |
| 900 | 8,1 | 1—33 | |
| 1000 | 8,7 | 1—43 | |
| 1500 | 10,2 | 1—67 | |
| 2000 | 12,2 | 2—00 | |
| 2500 | 15,3 | 2—50 | |
| 3000 | 20,2 | 3—30 | |

## РАСЦЭНКІ НА ВОЗКУ ТОРПУ

| Адлегласьць у кілёмэтрах | Цана за тону | Увага | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 4-5 | 3 руб. | Ад 16 і больш кілёмэтраў дадаецца на кожныя 3 кілём. 20 кап. на тону | |
| 6-8 | 4-75 „ | | |
| 9-11 | 6-00 „ | | |
| 12-15 | 6-25 „ | | |

2. Усе выдадзеныя раней акрвыканкомамі на мясцох расцэнкі на возку дровалесаматарыялаў, каменьня, пяску і торпу касуюцца.

3. Усім гаспадарчым арганізацыям прапануецца правесьці паказаныя расцэнкі ў жыцьцё з дня выданьня і апублікаваньня гэтай пастановы ў друку. Адказнасьць за выкананьне гэтага ўскладаецца на кіраўнікоў трэстаў і аб'яднаньняў і на кіраўнікоў работ.

4. Усе іншыя расцэнкі на дробныя асартымэнты па Лясбелу, не прадугледжаныя гэтай пастановай, распрацоўваюцца на мясцох гаспадарчымі органамі, узгадняючы іх з раённымі інспэктарамі па працы з абавязковым зацьверджаньнем РВК.

Пры распрацоўцы расцэнак прытрымліваецца прынцыпу расцэнак, паказанага ў данай пастанове.

5. Гэтыя расцэнкі ўстанаўляюцца на санную дарогу. Пры калёснай дарозе да гэтых расцэнак дадаецца яшчэ 15% установленых вышэй гэтай пастановай расцэнак.

6. На гарадзкіх і раённых інспэктароў працы ўскладаецца кантроль за ажыцьцяўленьнем гэтай пастановы.

7. За парушэньне гэтай пастановы гаспадарчыя арганізацыі прыцягваюцца да судовай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар Сэзонных Галін Народнай Гаспадаркі НКП БССР **З. Іоффэ.**

27 кастрычніка 1930 г.
№ 53.

### Паст. 188. Пра парадак аплаты рахунковых работнікаў, якія пасылаюцца на вёску для дапамогі калгасам у падліку ўраджаю.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Рахунковыя работнікі, якія пасылаюцца на вёску для дапамогі калгасам у падліку ўраджаю, атрымліваюць кошт праезду і сутачныя

ў разьмеры $^1/_{60}$ атрымліваемай імі па месцы працы зарплаты за кошт калгаснай сыстэмы.

За паказанымі работнікамі захоўваецца іх зарплата па месцы іх работы

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **З. Іоффэ.**

29 кастрычніка 1930 г. № 54.

**Паст. 189. Пра ўвядзеньне ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР зацьверджанага НКП СССР 11 ліпеня 1930 г. за № 223 „Палажэньня пра парадак найму і аплаты працы канцэртна-эстрадных работнікаў“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўвесьці ў дзейнасьць на тэрыторыі БССР зацьверджанае НКП СССР 11 ліпеня 1930 г. № 233 „Палажэньне пра парадак найму і аплаты працы канцэртна-эстрадных работнікаў“ („Извест. НКТ“ 1930 г. № 21).

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

30 кастрычніка 1930 г. № 55.

**Паст. 190. Пра парадак аплаты рабочых і служачых, якія пасылаюцца ў раёны для правядзеньня пасеўнай і ўборачнай кампаніі.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Рабочыя, якія пасылаюцца ў раёны для дапамогі ў правядзеньні пасеўнай і ўборачнай кампаніі, атрымліваюць выдаткі на праезд (кошт праезду, сутачныя ў разьмеры $^1/_{60}$ іх сярэдняга месячнага заработку, 2 руб. кватэрных у дзень) ад НК Земляробства; зарплата паказаных работнікаў захоўваецца па месцы іх сталай працы.

2. Служачыя, якія пасылаюцца для паказанай у п. 1 працы, атрымліваюць кошт праезду, сутачныя ў разьмеры $^1/_{60}$ акладу і кватэрныя па 2 руб. у дзень за кошт установ, дзе яны працуюць. За паказанымі работнікамі захоўваецца іх зарплата па месцы іх працы.

Народны Камісар Працы БССР **М. Гнілякевіч.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **З. Іоффэ.**

30 кастрычніка 1930 г. № 56.

**Паст. 191. Пра мерапрыемствы па накіраваньню спэцыялістаў з ліквідаваных акруговых установ у раёны.**

Прымаючы пад увагу, што шмат спэцыялістаў, якія былі накіраваны з ліквідаваных акруговых установ у раёны, да гэтага часу на працу не зьявіліся і паступілі на работу ў іншыя ўстановы, Народны Камісарыят Працы БССР, у мэтах забясьпечаньня раёнаў кваліфікаванымі спэцыялістамі, пастанаўляе:

1. Запрапанаваць спэцыялістам, сьпіс якіх далучаецца да гэтай пастановы, якія ў сувязі з ліквідацыяй акруг павінны былі паводле пастаноў ліквідацыйных камісій, выехаць для працы ў раёны, але да гэтага часу на месца новай працы не зьявіліся, у дэкадны тэрмін з дня апублікаваньня гэтай пастановы выехаць на месца працы, вызначанае ліквідацыйнай камісіяй.

2. Абавязаць усе прадпрыемствы і ўстановы, у якіх працуюць паказачыя ў арт. 1 асобы, безадкладна аслабаніць іх ад займаемых пасад.

3. Спэцыялісты, якія ўхіляюцца ад выкананьня гэтай пастановы, будуць безадкладна зьняты з займаемых імі пасад і прыцягнуты да адказнасьці за дэзэртырства.

4. Кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў, якія будуць затрымліваць спэцыялістаў, будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

Ст. Інспэктар НКП БССР **Дземідовіч.**

31 кастрычніка 1930 г. № 57.

Дадатак.

## СЬПІС СПЭЦЫЯЛІСТАЎ, ЯКІЯ НЯ ВЫЕХАЛІ Ў РАЁНЫ Ў СУВЯЗІ з ЛІКВІДАЦЫЯЙ АКРУГ.

| № № п/ч. | Прозьвішча | Спэцыяльнасьць |
|---|---|---|
| | **б. Полацкая акруга** | |
| 1 | Скудноў, Я. Н. | Тэхнік |
| 2 | Казак, А. Р. | Інж. дар. |
| 3 | Паянаў Ул. | Тэхн.-буд. |
| | **б. Гомельская акруга** | |
| 1 | Ермакоў | Бухгальтар |
| 2 | Агрон | Зоатэхнік |
| 3 | Іофэ | Земляўпар. |
| 4 | Вэнер | Гідратэхнік |
| 5 | Сабалеўскі | Інстр. па тэх. |
| 6 | Дзьмітроўскі | Аграном |
| 7 | Альтман | Бухгальтар |
| 8 | Ліхтэнштэйн | Інспэктар |
| 9 | Берлін | " |
| 10 | Куленіч | Эканаміст |
| 11 | Клімовіч | Бухгальтар |
| 12 | Мэліцаў | " |
| | **б. Менская акруга** | |
| 1 | Грынкевіч | Ст. інструктар |
| 2 | Лебядзеў | Інстр.-ільнав. |
| 3 | Калечыц | Аграном |
| 4 | Томчык | " |
| 5 | Харытановіч | Інстр.-ільнав. |
| 6 | Гурыновіч | Калькулянт |
| 7 | Розава | Культ. тэхн. |
| 8 | Трыгуб | Пам. культ.-тэхн. |
| 9 | Пучынскі | Калькулянт |
| 10 | Рошчын | Ст. прараб |
| 11 | Лук'янскі | Торпмайстар |
| 12 | Карлецкая | Дзесятнік |
| 13 | Асмалоўскі | Гідратэхнік |
| 14 | Баркун | Дзесятнік |
| 15 | Дзярах | " |
| 16 | Страхаў | Ст. прараб |
| 17 | Канашэвіч | Гідратэхнік |
| 18 | Шухман | Торпмайстар |
| 19 | Сакавец | Гідратэхнік |
| 20 | Сташэўня | " |
| 21 | Левін | Ст. торпмайстар |
| 22 | Грыгарэнка | Торпмайстар |
| 23 | Барыот | Праараб |
| 24 | Сташэўскі | Гідратэхнік |
| 25 | Амельяненка | Культ. тэхнік |
| 26 | Аўмельчык | Дзесятнік |
| 27 | Вільнер | " |
| 28 | Барташэвіч | Жывёлавод |
| 29 | Агінскі | Бухгальтар |
| | **б. Віцебская акруга** | |
| 1 | Пятроў | Райаграном |
| 2 | Бутрымовіч | Бухгальтар |
| 3 | Вешчавоз | Інстр.-экан. |
| 4 | Ігнатаў | Інструктар |
| 5 | Пухальскі | Спэц. па гаспад. |
| 6 | Патапава | Садавод |
| 7 | Краўцова | Інструктар |
| 8 | Жызьнеўскі | Бухгальтар |
| 9 | Шульман | " |
| 10 | Пускупоў | Торпмайстар |
| 11 | Іваноў | Аграном |
| 12 | Цэмахман | Экан.-фінансіст |
| 13 | Раманоўскі | Тэхнік |
| 14 | Шыльнікаў | Аграном |
| 15 | Пятроўскі | Тэхнік |
| 16 | Гітлін | Бухгальтар |
| 17 | Журанкоў | Аграном |
| 18 | Транкевіч | Гідра-тэхнік |
| 19 | Календа | Бухгальтар |
| 20 | Едзіт | " |
| 21 | Карбановіч | " |
| 22 | Вайханскі | " |
| 23 | Менжынскі | Інстр.-жывёл. |
| 24 | Кантар | Дзесятнік |
| 25 | Барсук | Лясьнічы |
| 26 | Ігудэсман | Эканам.-плян. |
| 27 | Хаткевіч | Палявод |
| 28 | Чабатарэвіч | Бухгальтар |
| 29 | Быкоўскі | Культ.-тэхн. |
| 30 | Браўн | Бухгальтар |
| 31 | Мігуцкі | Садавод |
| 32 | Васільлеў | Аграном |
| 33 | Выдрэвіч | Спэц. ільнавод |
| 34 | Мерзляк | " |
| 35 | Якаўлеў | Бухгальтар |
| 36 | Артюхоў | Інстр. зоат. |
| 37 | Касьцюк | Тэхн.-буд. |
| 38 | Лаўракевіч | Экан. плянавік |
| 39 | Белякоў | Бухгальтар |
| 40 | Хахлоў | Садавод |
| 41 | Клебанаў | Тэхн. буд. |
| 42 | Буйніцкі | Галоўн. бухгальт. |
| | **б. Аршанская акруга** | |
| 1 | Аляксеянка | Эканам.-плянавік |
| 2 | Пальчэўскі | Гідратэхнік |
| 3 | Рубановіч | Культ. тэхн. |
| 4 | Фабрыстаў | Аграном |
| 5 | Дабравольскі | " |
| 6 | Сірэльскі | Торпмайстар |
| 7 | Правіла | Эканам.-плян. |
| 8 | Сурма | " |
| 9 | Пашанкоў | Гідратэхнік |
| 10 | Элькін | Інструктар |
| 11 | Шафранаў | Тэхнік |
| 12 | Тунік | Аграном |
| 13 | Фрыдман | Бухгальтар |
| 14 | Сукоцкі | Экан.-плянавік |
| | **б. Мазырская акруга** | |
| 1 | Паўленка | Аграном |
| 2 | Левандоўскі | Торпмайстар |
| 3 | Петрашэўскі | Земляўпарадчык |
| 4 | Кароль | Гідратэхнік |
| 5 | Галушка | Інструктар |

## Пастанова Камітэту па Справах Друку пры Савеце Народных Камісараў БССР.

### Паст. 191. Пра парадак падачы заявак на паперу і кардон.

Для ўстанаўленьня плянавасьці і эканоміі ў скарыстаньні паперы і для забясьпечаньня папераю важнейшых патрэб устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў БССР, устанаўляецца наступны парадак падачы заявак на паперу і кардон:

#### I. Для газэтнай і друкарскай паперы.

1. Заяўкі на газэтную і друкарскую паперу, а таксама на пісоўную паперу для выдавецкіх патрэб падаюцца выдавецтвамі ў Камітэт друку пры СНК БССР з копіяй Белдзяржснабу і Паліграфтрэсту. Газэтная і друкарская папера адпушчаецца выключна на выдавецкія патрэбы.

#### II. Для пісоўнай паперы.

1. Заяўкі для форм справаздачнасьці і падліку (апроч канцылярскіх патрэб, якія задавальняюцца ў парадку арт. 6 гэтае пастановы) падаюцца арганізацыямі агульнасаюзнага значэньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, у парадку разд. „Б“, арт. 1 пастановы Камітэту па справах друку СССР („Известия ЦИК СССР и ВЦИК“, № 318 за 19/XI-30 г.).

2. Заяўкі для форм справаздачнасьці і падліку ўсімі народнымі камісарыятамі, цэнтральнымі ўстановамі і арганізацыямі падаюцца для сваіх уласных патрэб і для патрэб падпарадкаваных ім органаў у Бел. Кантору „Оргстрой“, якая складае зводную заяўку і падае яе ў Камітэт па справах друку пры СНК БССР з копіямі Белдзяржснабу і Паліграфтрэсту. Тыя арганізацыі, якія ня маюць рэспубліканскіх цэнтраў, падаюць беспасрэдна свае заяўкі ў Беларускую Кантору „Оргстрой“.

3. Заяўкі на сшыткі для ўсіх тыпаў школ і завочнага навучаньня падаюцца Наркамасьветы БССР у Камітэт па справах друку з копіяй Белдзяржснабу.

4. Заяўкі для выпрацоўкі белавога тавару падаюцца ўсімі гандлёвымі арганізацыямі Акцыйнаму Таварыству „Международная Книга“ з копіяй Камітэту па справах друку БССР і Белдзяржснабу.

5. Заяўкі на ўпакоўку і рэкляму для экспарціруемых за межы Саюзу ССР тавараў падаюцца ў парадку разьдз. „Б“, п. 4 вышэйпамянёнай пастановы Камітэту па справах друку СССР з копіяй Камітэту па справах друку БССР і Белдзяржснабу.

6. Заяўкі для канцылярскіх і іншых патрэб, не прадугледжаных гэтаю пастановаю, усімі ўстановамі і арганізацыямі агульнасаюзнага, рэспубліканскага і мясцовага значэньня падаюцца беспасрэдна Камітэту па справах друку пры СНК БССР з копіяй Белдзяржснабу, пры чым раённыя органы падаюць свае заяўкі праз свае рэспубліканскія органы.

#### III. Для прамысловай, пакавальнай і іншай паперы і для кардону.

1. Заяўкі на ўсе прамысловыя, пакавальныя і іншыя гатункі паперы і на кардон падаюцца арганізацыямі і прадпрыемствамі БССР Белдзяржснабу, які складае зводную заяўку і падае яе Савету Торгаў з копіяй Камітэту па справах друку пры СНК БССР.

Усе падпарадкаваныя ВСНГ і Наркамгандлю арганізацыі і прадпрыемствы падаюць свае заяўкі ў парадку, устаноўленым загадам ВСНГ і Наркамгандлю СССР № 2667/1328.

Усе арганізацыі і прадпрыемствы, якія ўжо падалі свае заяўкі Белдзяржснабу, новых заявак могуць не падаваць, а пасылаць толькі падцьвярджэньне дадзеных заявак.

2. Заяўкі па ўсіх гатунках паперы, прадугледжаных разьдз. I, II, III гэтае пастановы, на 1931 год, павінны быць пададзены ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі ў гадавым і паквартальным разрэзе не пазьней 3-га сьнежня 1930 г. У заяўках, ці ў тлумачэньні да заявак, абавязкова павінна быць паказана фактычная колькасьць атрыманай паперы ў 1929-30 г., з якіх крыніц была папера атрымана, у якіх паліграфпрадпрыемствах была перапрацована, у якіх паліграфпрадпрыемствах намячаецца перапрацоўка ў 1931 г. Колькасьць патрэбнай паперы павінна вылічацца ў вагавым выражэньні (у тонах).

3. Заяўкі, якія будуць пададзены з спазьненьнем, а таксама перапіскі і заяўкі, накіраваныя ў парадку, непрадугледжаным гэтаю пастановаю ня будуць разглядацца і ня будуць уключаны ў агульнарэспубліканскі плян забясьпечаньня папераю.

Старшыня Камітэту па Справах Друку
пры СНК БССР **А. Меляшкевіч.**

Сакратар **Л. Рэзьнік.**

20 лістапада 1930 г.
г. Менск.



Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Кіраўн. Спраў СНК і Эк. Нар. БССР. Зак. № 223—4500 экз. Галоўлітбел № 1572.